# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 50 (615) Год XII 10 снежня 1967 г. ЦАНА 60 гр.

## БГКТ

### З ПРАЦ ПРЭЗІДЫУМА ГП

27 лістапада г.г. адбылося чарговае пашыранае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку з удзелам інструктараў з пасобных аддзелаў.

На парадку дня былі дзве справы: 1) **Рэалізацыя пастулатаў V Пленума БГКТ і 2) Уступнае падсумаванне святкавання 50-годдзя Вялікага Кастрычніка.**

Адносна першага пункта, згодна з пастулатам V Пленума, Прэзідыум вырашыў выдаць даведнік аб беларускім музеі ў Белавежы. Разыходзіцца пра тое, каб людзі, якія цікавяцца музеем і яго экспанатамі, маглі пазнаёміцца, што ў гэтым музеі можна ўбачыць. Абмяркоўваліся таксама іншыя справы звязаныя з упарадкаваннем музея і далейшымі яго лёсамі.

Абмяркоўвалі «Каляндар на 1968 год». Удзельнікі выказваліся, што калі разыходзіцца аб змест, дык тут няма якіх-небудзь засцярог. Некаторыя дыскутанты мелі пэўныя засцярогі адносна графічнай апрацоўкі календара. Вырашана таксама, каб да апрацоўкі наступных выданняў «Календароў» паклікаць рэдкалегію і раней прыступаць да яго рэдагавання.

Прэзідыум вырашыў таксама дапамагчы ў рэкрутацыі моладзі на беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. Дзеля гэтага будуць арганізаваны сустрэчы з настаўнікамі, вучнямі перад усім беларускіх ліцэяў. Шырэй справа рэкрутацыі будзе разгледжана Прэзідыумам яшчэ раз перад пачаткам рэкрутацыі ў наступным годзе.

Ва ўступным падсумаванні святкаванняў Вялікага Кастрычніка гаварылася аб тым, што ўжо адбылося, арганізаваных БГКТ, 79 акадэмій, сустрэч і вечароў. Найвялікшыя дасягненні ў гэтым напрамку назіраюцца ў Гайнаўскім павеце, дзе праведзена 35 акадэмій, у Бельскім — 16, Сакольскім — 7 і Сямяціцкім — 10. Падкрэслівалася, што мерапрыемствы, якія арганізавала БГКТ, былі вельмі ўданымі. Вельмі цікавым быў даклад апрацаваны на 50-годдзе, які абапіраўся на мясцовых матэрыялах і гаварыў аб удзеле нашых землякоў у Вялікіх днях 1917—19 гадоў.

Вельмі істотнай справай было супрацоўніцтва з БГКТ грамадскіх рад, партыйных камітэтаў і арганізацый. Гэта супрацоўніцтва таму хіба было вельмі відавочнае, што БГКТ мела з чым выйсці да людзей: эстрадай «Лявоніха», мясцовымі мастацкімі калектывамі, фільмамі і цікавымі дакладчыкамі.

### СВЯТКАВАННІ Ў САКОЛЦЫ

Вельмі ўрачыста адзначалася 50-годдзе рэвалюцыі ў **Саколцы** арганізаванае мясцовым аддзелам БГКТ. Урачыстасць адбылася ў памяшканні Павятовага камітэта ПАРП. На ўрачыстасць прыбылі сакратары Павятовага камітэта **Генрых Кравец і Анатоль Цішэўскі,** а таксама члены праўлення БГКТ. Прысутных прывітаў і адкрыў урачыстасць старшыня аддзела **А. Рафаловіч.** Пасля даклада, які прачытаў тав. **А. Севаст'янюк** адбылася мастацкая частка. Выступілі тут вельмі цёпла сустрэты прысутнымі «Лявоніха» і мастацкі гурток з Піражкоў з п'есай Ю. Геніюша «Зямля». Затым адбыўся танцавальны вечар, на якім іграў аркестр ВОП з Беластока.

**А. К.**



**Закончыўся наш вялікі чытальніцкі конкурс. Падведзены вынікі і ўручаны ўзнагароды пераможцам. Аб гэтым чытайце ў сярэдзіне нумара. На здымку: Станіслава Штукоўская з ваяводскай бібліятэкі (справа) віншуе з узнагародай жыхарку Фастаў Аляксандру Герасімюк.**

**Фота А. Карпюк**

### РАЗМОВА З САКРАТАРОМ ГРОДЗЕНСКАГА АБКОМА КПБ ТАВ. АЛЯКСАНДРАМ УЛЬЯНОВІЧАМ

Узаемныя кантакты і абмен паміж Гродзеншчынай на Беларусі і Беластоцкім ваяводствам увайшлі ў фазу росквіту. Можам зараз хваліцца вельмі багатымі дасягненнямі ў гэтай галіне. Розныя дэлегацыі, вельмі часта спецыялістычныя, ездзяць туды і прыязджаюць да нас. Людзі ўзаемна знаёмяцца, вучацца, памагаюць сабе.

і ў гаспадарчым жыцці. Прыязджалі вашы інжынеры. Быў абмен навуковымі працаўнікамі медыцынскіх інстытутаў, абменьваліся лектары. Такім чынам умацоўваецца дружба народаў, вырастаюць сімпатыі і ўзаемныя паважанні. Кожная наша дэлегацыя вярталася ад вас вельмі задаволенай. Вашы таварышы паказвалі ім усё і вельмі многа.




Багаты абмен назіраем у культуры. Хоры, тэатры, выстаўкі — паказваюць шырокаму гледачу ўсё, што самае цікавае маюць два суседскія і братэрскія кускі славянскай зямлі. Кантакты і абмен так шырокія і разнародныя, што перастаюць быць здарэннямі, а становяцца звычайнымі рабочымі спатканнямі наштодзень. І знікае старое паняцце граніцы, якая два народы ад сябе аддзяляе.

Якраз аб кантактах, аб багатым абмене «Ніва» гаворыць сёння з Сакратаром Абкома партыі ў Гродне, які з выпадку першага візіту Гродзенскага драматычнага тэатра ў Беластоку прыехаў таксама і сустрэўся з журналістамі.

Нашым чытачам размова з таварышам Ульяновічам прадстаўляе асаблівую цікавасць. На пачатку некалькі лічбаў, якія сакратар падаў: у Гродне ёсць тры вышэйшыя школы — Педагагічны, Сельскагаспадарчы і Медыцынскі інстытуты, у вобласці маюць яны больш 1000 бібліятэк, 600 клубаў, 45 кінатэатраў, 700 кінаўстановак, на 1000 жыхараў выпадае ў іх 813 часопісаў і газет. Гродзенская вёска поўнасцю электрыфікавана.

Запытаны, як ацэньвае дагэтуляшні абмен, тав. Ульяновіч сказаў:

— Гэта вялікая дапамога не толькі ў развіванні культуры, — мы тут пераймаем вашы лепшыя дасягненні, — але

— Адносна будучых планаў.

— План на будучы год прадбачыць пашырэнне кантактаў. Зараз наша «Гродзенская праўда» абменьваецца матэрыяламі з «Беластоцкай газетай». Прадбачым на будучы год такі абмен з «Нівай».

— Нашы чытачы вельмі цікавяцца жыццём Беларусі і мне прыемна пачуць ад вас гэткую навіну. Гродзеншчына перадавая, здаецца мне, вобласць у развіцці розных форм культурнага жыцця. У вас многа харавых, танцавальных калектываў, народных тэатраў, многа рэпертуарнага матэрыялу, якога нам не хапае. Думаю, што Беларускае таварыства ў Польшчы зможа многа скарыстаць з Гродзеншчыны.

— У Гродне ёсць Дом народнай творчасці, яго дырэктарам — наш вядомы кампазітар Шыдлоўскі. Яны багаты рэпертуарным матэрыялам і напэўна памогуць. Мы з сабой зараз прывезлі Беларускаму таварыству бібліятэчку беларускіх кніг, пераважна навасцей — 270 тамоў — падарунак ад Саюза пісьменнікаў БССР.

— Мы маем у вас сярод пісьменнікаў верных прыяцеляў. А Гродзеншчына зрадзіла добрых людзей для беларускай літаратуры.

— Так, у нас пяць пісьменнікаў — членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі. Напэўна вядомы вам: Аляксей Карпюк, Васіль Быкаў, Данута Бічэль. У нас акрамя гэтага пры «Гродзенскай праўдзе» працуе літаратурнае аб'яднанне, падобныя ёсць і пры раённых газетах.

Добра развіваецца ў нас тэатральнае мастацтва. Апрача Драматычнага абласнога тэатра, які выступаў на Беласточчыне, у вобласці ёсць чатыры народныя тэатры. Я задаволены прыёмам нашага тэатра ў Беластоку. Апладысменты на лепшыя моманты ў час спектакля сведчаць, што людзям падабалася і што нас разумеюць. А прызнаюся, нашы акцёры хваляваліся, калі рыхтаваліся да выступленняў у Беластоку. Цяпер чакаем у нас на прыезд вашага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі.

Сакратар за нашым пасрэдніцтвам складае сардэчную падзяку ўсім працоўным Беласточчыны за дагэтуляшнюю гасціннасць, за цёплыя прыёмы, за ўвагу да беларускай культуры, за прывітанні з выпадку 50 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Жадае ўсім самых лепшых поспехаў у працы і жыцці.

Размову запісала

**Вера Леўчук**

## Што з беларускай праблематыкай

Што з беларускай праблематыкай, напрыклад, у Доме культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку? Здавалася б, у беларусамоўным Гарадку гэта праблематыка з'яўляецца зусім натуральнай, патрэбнай, неабходнай і т.д. Тым часам, відаць гэту праблематыку як бы дзесьці на перыферыі (на загуменні!) дзейнасці гэтага Дома, якому ніхто нават не здагадаўся зрабіць двухмоўную, польска-беларускую, табліцу — нягледзячы на добры тут прыклад школы імя Кастуся Каліноўскага ў недалёкіх Мастаўлянах.

А гэты ж Дом культуры, дзякуючы энергічнаму яго кіраўніку Мікалаю Матэйчыку перад усім, напэўна належыць да ліку найлепшых на Беласточчыне. Адбываюцца рэгулярныя спектаклі беластоцкіх тэатраў, сустрэчы з пісьменнікамі і дзеячамі; заязджаюць сюды заграгічныя эстрады — напрыклад, венгерская эстрада з Будапешта. Мае быць слынная Міянсарава і яшчэ шмат хто з еўрапейскіх славутасцей. Няма чаго і казаць: Гарадку пашанцавала мець здольнага і ўплывовага дзе трэба кіраўніка свайго Дома культуры!

Створана хор, тэатральны гурток і іншыя гурткі, вечаровыя універсітэты, лектарскі пункт. І ўсё гэта працуе рэгулярна, па раскладу — а не ад аказіі да аказіі. Нялёгка знайсці такі другі дом культуры з падобнай **рэгулярнай** дзейнасцю, а што найважнейшае — з усебаковай дзейнасцю: спевы, даклады, дыскусіі, спектаклі, урачыстасці, конкурсы.

Разам з тым неяк дзіўна робіцца на душы, калі глядзіш на гэту дасканала і з талентам арганізаваную работу ў Гарадку. Штосьці тут падобнае да нашай «Лявоніхі»: нібы і беларуская яна, але... хутчэй з назвы, чым з ідэі сваёй дзейнасці.

Беларуская праблематыка ў Гарадку паказваецца ў пару песнях, адным танцы (не помню назвы). І ў, так званых, акадэміях, напрыклад, з нагоды Кастрычніцкай рэвалюцыі — выступалі беларусы — ўдзельнікі рэвалюцыі (Грэсь, Лісоўскі); былі дзве «адгаданкі» (дарослым і дзецям) на тэму «Што ведаеш аб Савецкім Саюзе»? Сарганізавана падобныя мерапрыемствы ў навакольных вёсках — Белявічах, Страшаве. Калісьці была вечарына аб Кастусю Каліноўскім; мясцовая бібліятэка накупіла кніжак на беларускай мове, чытаюць іх малыя і старыя.

Зрэшты, справа не ў вылічэннях, што зроблена, а што будзе зроблена...

Гарадоцкі Дом культуры, яго актыў, згуртаваны вакол свайго кіраўніка, моцна працуюць над уздымам агульнай культуры мясцовага насельніцтва. І за гэта належацца гарачыя бравісімы! Аднак, гэтакая дзейнасць мае характар занадта у н і в е р с а л ь н ы, занадта, скажам, еўрапейскі, і таму баюся вельмі, што можа аказацца — «таваровай», забяспечваючай толькі к а н с у м п ц ы ю культуры наогул — пачынаючы ад песні, канчаючы на навуцы. Прыраўнаю гэту дзейнасць да буйнага дрэва з заморанымі карэннямі. Праўда, такіх дрэў не бывае, прыраўнанне абсурдальнае — але яно бадай найкарацей вызначае сэнс. Бо, гаворачы аб беларускай праблематыцы мелася на ўвазе тыя карэнні, тыя мясцовыя **творчыя** магчымасці. Магчымасці беларускага Гарадка.

**Сакрат Яновіч**

# Белавежа

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 108





**«...і панове всі з'ехаліся до Гольшан до князя Юрыя і умыслілі і одностайную раду вчынілі взяты собі господарем на велікое княство королевіча Казіміра сына Ягойлова отчыча Літовское землі і посылают послов в Лядскую землю до королевіча к Судоміру».**
(Літоўскі летапіс, Спісак Быхаўца)

Вясна ў 1440 годзе прыйшла раптоўная і напорыстая. Не паспела яшчэ сплыць паводка з-пад сандамірскіх крэпасных сцен і ўлегчыся ў бурлівае ложа Віслы, як ужо ў рамесніцкіх пасадах зазеляненеліся садовыя дрэвы. У адчыненыя насцеж вокны сандомірскага замка лілося мяккае сонечнае святло і гул званоў, што заклікалі прыхажан пад зводы малельняў для адсвяткавання Благавешчання. Але кракаўскім вяльможам і знатным літоўскім панам не да малітваў кlаліся справы. У абшырнай, з бэльчатым полапам, комнаце размовы ўсё часцей і часцей перакідваліся ў спрэчкі, а то і ў заядлыя сваркі.

— Што ж вы абодвух сыноў каралеўскіх да сваіх рук прыбралі, — злаваў віленскі стараста пан Гязгайла. — Ведама ж, што яны дзеці князя нашага, караля Ягайлы, ды каралевы Софіі. А каралева, святой памяці, родам з зямлі нашае, з князёў Гальшанскіх выводзіцца.

Тут з лавы падняўся князь Юрый Гальшанскі і, разгладзіўшы рукой сваю буйную пакручастую бараду, пачаў:

— Па праўдзе кажучы, дык і кароль Уладзіслаў і каралевіч Казімір, абодва сыны Ягайлавы па праву княству нашаму больш прыходзяцца, кроў то ў іх нашая, з Русі Белай...

Але тут паны кракаўскія загаварылі разам, засупярэчылі:

— Чаго там ад няпамятнага капацца! Каралевічы абодва тут у польскай зямлі нашай радзіліся, тут і раслі яны і карона польская ім ад бацькоў належыцца...

— Пра караля Уладзіслава і ўпамінаць тут цяжка. Як прыняў карону венгерскую, дык год цэлы ўсё там і там справы ўладжвае, а мы тут самі дзяржаваю правім, — азваўся каралеўскі намеснік, кракаўскі вяльможа Збігнеў Алесніцкі. — І кароне нашай польскай таксама жыць трэба на заўтра гледзячы. Панам вядома, што карона венгерская ў дзень сённяшні не ў віне абмываецца, а крывёю сплывае: сіла турэцкая на дзяржаву венгерскую зубы вострыць і толькі сіла боская ведае, чым гэта ўсё кончыцца. Таму нам цяпер каралевіча Казіміра аддаваць у Вялікае княства літоўскае зусім нязручна. Без нашага дазволу нікуды дзіця малалетняе з рук ды з вока не спусцім. Падрасце каралевіч, тады і відна будзе.

А іншыя дык проста рэзалі:

— Не мы ж вінаваты, што гаспадар наш, князь Вітаўт, наследніка не пакінуў...

— І наследнічкі Вітаўтавы былі, — ціха загаварыў князь Юрый Гальшанскі, — ад нажа крыжацкага небажаты пагінулі. Усіх, разам з маткаю-княгіняю, комтур у Горадні перарэзаў. Каб не гэтае няшчасце нашае, не хадзілі б мы сюды ды не выпрошвалі каралевіча Казіміра.

Словы князя Юрыя ўсіх суцішылі, але аб згодзе паноў кракаўскіх аддаць Казіміра ў Літву быць не магло. Сёй-той з вяльможаў за дзверы пачаў падавацца, другія ж зусім аб чым іншым гутарку заводзіць пачалі.

Засмуціўся князь Юрый, дый шапнуў пану Гязгайлу:

— Нічога, пане стараста, мы тут не здабудзем.

А пан Гязгайла, весела на князя глянуўшы, ціхачом азваўся:

— Калі праўдаю не здабудзем, княжа, дык спосабам папробуем.

*

Начныя сутонні ахуталі сандамірскі замак. Суцішыўся каралеўскі двор, нарэшце ўлягласяспаць чэлядзь. Каралевічу Казімуру не спалася. Ён паціхеньку саскочыў з ложа, падышоў к акну, паволі адхіліў створку і, высунуўшыся, пачаў прыслухоўвацца да таемных зыкаў веснавой ночы. Затуманены ражок месяца блішчэў паміж стромкімі замкавымі вежамі. Недзе за сценамі вохкала і булькацела бурлівая рака. У вышыні спалоханымі галасамі пераклікаліся дзікія гусі, што цягнуліся на лета к сваім родным мясцінам. Прарэзліва трубілі жоравы, шукаючы стада ў каламутнай цемры.

«Цяпер бы на глушцоў запаляваць, — думалася Казіміру. — Напэўна ўжо такуюць. Калі не з кушы, то хоць бы з сеткаю ў бары пасядзець»...

Тут ён пачуў, што нехта пасоўваецца к яго акну, па карнізу, чапляючыся выступаў муру і аканіц. Хлопчык замёр ад страху і не спускаў вачэй з хісткага ценю, што локаць за локцем набліжаўся да яго. Але страх хутка прайшоў і каралевіч чуць не рассмяяўся ўголас, падумаўшы, што гэта перасмешнік Вінцэк такім ходам прабіраецца да пакаёвак. Ён нават хацеў ужо крыкнуць Вінцаку, але вось рука незнаёмага намацала акно, ля якога стаяў Казімір і перад ім устаў, цяжка дыхаючы, чужы чалавек. Тут Казіміру не на жарт стала страшна. Ён кінуўся ад акна да ложа.

— Не палохайся, каралевічу, я з добрым словам да цябе, — загаварыў здушаным голасам чалавек.

— А хто ты? — закрычаў прарэзліва Казімір.

— Каралевічу міленькі, не крычы. Згубіш ты і мяне і сябе, — загаварыў той. — Я стараста віленскі Гязгайла. Не бойся ты мяне. Я — чалавек мірны.

Казімір траха супакоіўся. Ён чуў ад чэлядзі, што ўчора прыехала пасольства з далёкага княства літоўскага. Але ўсё ж такі яму было боязна вылазіць з-пад ложа.

А пан стараста гаварыў хуценька, не ўнімаючыся:

— Бач, каралевічу, не спіцца і мне сёння. Хадзіў я хадзіў па замкавым дзядзінцы ды ўсё слухаў, як дзікія гусі ды жоравы к нам за Буг ляцяць, каб сабе там гнёзды віць ды малых выводзіць. Ты хіба і не ведаеш, якія ў нас там ройсты або інакш шырокія лугі і поймы. А птаства таго featnaга — хоць ты рукамі лаві...

— Няўжо так і рукамі, — азваўся Казімір, высунуўшы галаву з-пад ложа.

— А так — рукамі. Ды што там птаства! Там алені, як маланкі ходзяць па пушчах. Толькі цяціву паспявай нацягваць.

— Мне казалі, што ў вас і зубры водзяцца, — горача загаварыў Казімір, сядаючы побач са старастам.

— Яшчэ і якія! Вунь пакойны твой дзядзька князь Вітаўт за адзін тыдзень цэлую капу ўласнаручна іх упаляваў. А пра тураў ты хіба не чуў, бо дзе тут, у гэтых хмызняках пад Кракавам, туру — каралю пушчы — вадзіцца. Тут разгону яму ніякага. Гэта табе не тое, што ў нас: пушчы такія, — адну і за тыдзень не праедзеш. Вось дзе край! Любата паляўнічым...

— А як той тур выглядае? — з загарэўшыміся вачыма запытаў Казімір.

— Ого, тур! Тур — гэта, каралевічу, аграмадзіна, гэта не звер, а проста будыніна. Чорны са смаляватым, рогі локцяў два... Але што там расказваць, яго трэба самому ўбачыць.

— Э-эх, я то бы і вельмі хацеў, ды пан Збышэк мяне нікуды не пускае, — сумна азваўся каралевіч. — Учора нават на глушцоў з'ездзіць адмовіўся, а абяцаў...

— То-то і я бачу, — загаварыў стараста, — што на прастор тваё сэрца просіцца. Заўважыў я, як ты з акна да веснавога гоману прыслухоўваўся і жаль мне цябе стала. Вось, думаю, хлопец мучыцца. Дай пагавару з ім, мо і паехаў бы з намі на Русь Белую паганяцца за зубрамі ды турамі.

— Ага, так табе здаецца: узяў ды паехаў, — з горыччу ўсміхнуўся Казімір. — А пан Збышэк...

— А чаго табе пана Алесніцкага слухаць, га? Ты вось адзявайся хутчэй, і мы ўдвох тайком паскачам. Пакуль ён аглянецца, мы і за Бугам, у нашым княстве будзем...

— Праўда? — уцешыўся Казімір і заскакаў на адной назе вакол старасты.

— Раз кажу, значыць — праўда.

Праз некалькі хвілін дзве асцярожныя цені асунуліся па вяроўцы з акна, што высока чарнела адчыненымі створкамі. На дзядзінцы да іх прылучылася трэцяя цень і неўзабаве яны зніклі ў начным вясеннім тумане.

Ужо тры ночы і тры дні імчаліся коннікі размоклымі гасцінцамі. У часе кароткіх адпачынкаў ім трызніўся тупат і воклічы пагоні. Яны зрываліся, сядалі на загнаных коней і, абмінаючы замкі і каралеўскія пераправы, скакалі на поўнач. Ужо шостую тройку коней паспелі перамяніць, але ад пагоні ніяк адарвацца не змаглі. Час ад часу стараста спыняў коней, лажыўся на дарозе, прыкладаў вуха да зямлі, зрываўся і зноў коні на ўсю сілу рваліся ўперад.

Нарэшце раніцай чацвёртага дня конскія капыты зацмокалі па прыбярэжным муле Буга і спыніліся.

Жаўтава-шэрыя хвалі накотваліся на прыбярэжны пясок. Шырокія віры круцілі ў сваіх вадаваротах вырваныя з карэннем камлі дрэў.

Стараста і князь задумаліся.

— Мы то мы, але дзіця як цераз раку перавезці, — устрывожыўся князь Юрый. — Хлопцу чатырнаццаты год пайшоў, дзе тут яму ў такую нетру лезці.

— Эт, не прывыкаць нам рэкі пераплываць, — пацяшаў стараста Гязгайла. — Апаражняй, княжа, свой мех ад кракаўскіх падарункаў...

— Ну, што ты, стараста, там жа парча золатам тканая...

— Не час, княжа, па валасах плакаць, калі галава з плеч валіцца.

Князь Юрый на хвіліну задумаўся і дрыжачымі рукамі пачаў адвязваць свой падарожны скураны мех, які быў прытрочаны да сядла. У промнях ранішняга сонца зазіхацела золататканая парча. Князь глянуў на яе, азірнуўся на старасту і шырокім размахам рукі шпурнуў у мутныя бужанскія віры.

З апарожненым мехам умомант падбеглі да каралевіча Казіміра.

— Ну, сынок, як хочаш на зуброў ды тураў паляваць, лезь хутчэй у мех.

— А вы мяне ў раку не ўкінеце? — устрывожыўся хлапчук.

— Ды што ты, хто б асмеліўся на грэх такі. Мы хочам сухім цябе на той бераг перавезці...

— Баюся, — захныкаў каралевіч.

— Не бойся, дзіцятка; бач там пушча якая, — князь Юрый кіўнуў у той бок ракі, што насупіўся цёмнай сцяной бору. — Там ўсё табе: і зубры і туры.

Калі Казімір апынуўся ў мяшку, стараста і князь хуценька завязалі мех, ускінулі на сядло, прымацавалі.

— Ты, княжа, глядзі за мяхом ды рабі таксама як я, — прагаварыў спяшаючыся стараста і, схапіўшы свайго каня за хвост, моцна абкруціў конскім шчаціннем левую руку. Спрабаваўшы ці моцна трымаецца, гікнуў на каня і пабег за ім па плыткай прыбярэжнай вадзе. Раптам конь трапіў на глыб, паплыў, а за ім, лёгшы на ваду і адграбаючыся правай рукой, паплыў і стараста.

Князь пагнаў за ім каня з прытрочаным мехам. А потым і сам, прымацаваўшыся да конскага хваста, падаўся за імі.

Час на пераправу быў як найбольш адпаведны. З надбужанскага выжару імпэтам спускаліся загнаныя да мыла коні кракаўскай пагоні. Ездакі заўважылі плаўцоў на сярэдзіне ракі. Яны спачатку было кінуліся ў яе хвалі. Але знясіленыя коні прагна пацягнуліся да вады. Захлынаючыся, глыталі яе і дрыжалі ўсім целам.

Аб пераправе з ходу не было чаго і гаварыць.

А тым часам уцекачы і іх коні змагаліся з бужанскімі вірамі. Яны разпораз траплялі на плыткія месцы, каб за момант зноў захлынацца ў калючай ад холаду вадзе. У князя Юрыя ўжо не хапала сіл адграбацца вольнай рукой. Ён аберуч ухапіўся за конскі хвост і здаўся на волю лёсу. Стараста ж панукваў на коні ды не спускаў з вока мяха з каралевічам. А таму не сядзелася ў душным мяху. Круціўся, бы ўюн, і да смерці палохаў старасту тым, што мяшок развяжацца і хлопец можа ўтапіцца. Але вось конскія капыты трапілі на цвёрды грунт, выйшлі на бераг, страсянуліся.

— Ну, каралевічу, вылазь! — весела азваўся стараста, развязваючы мех. — Цяпер мы на сваёй зямлі.

— Бач, небажатка, хоць і ў мяху, а прамок увесь. Можа цепяльцо якое расложым? — прахрыпеў князь, у якога зуб на зуб не пападаў, а збітая ў камяк барада так трэслася, што кропелькі вады і кавалачкі featnaга там мулу ды рачной поскудзі сыпаліся з яе дажджом.

— Ды што ты, княжа, крэсіва ды губка ў нас мокрыя, а з пальца агню не выкрашаш. Сонейка, бач, як прыгравае, зараз і абсохнеш. А тут і да Мельніка рукой падаць, адзін перагон, а то і таго не будзе.

Яны ўсе трох глядзелі на процілеглы бераг. Рака выдавалася ім зусім ужо не такой шырокай і страшнай. На тым баку варушыўся гурт людзей. Яны нешта крычалі і пагражалі рукамі.

Каралевіч Казімір з трывогаю глянуў на сваіх спадарожнікаў.

Князь заўважыў гэта:

— Не бойся, дзіця, — маўляў, — ніякая пагоня табе тут не страшна. Ты ўжо на зямлі сваёй, бацькавай, таксама як і тая, што на тым беразе. Гаспадарыць табе на ёй ды панаваць.

— А хто на паляванні ездзіць будзе? — запыталася дзіця.

Князь Юрый Гальшанскі і стараста Гязгайла ўпершыню ад выезду з Сандаміра дружна зарагаталі.

**Мікалай Гайдук**

## Як Крынкі Саколку абулі

Як Крынкі Крынкамі такога налёту на шаўцоў не было! У гэты дзень убэ вывезла ў Саколку поўную адну машыну скураў, а таксама някончаных і кончаных ботаў — і другую поўную машыну шаўцоў, разам штосьці каля сарака чалавек. Была гэта ўданая акцыя ліквідацыі ўласнасці буржуазіі.

Трэба сказаць, што буржуазія ў Крынках была вельмі моцная: апрача шаўцоў, шмат багатых гаспадароў. Багатых пазнавалася па тым, што мелі пчолы — і, часамі, мёд. Але ўбэ, гэта таксама людзі і, відаць, пастаноўлена пакуль не зачапаць пчолаў...

І так, першы ўдар па шаўцах.

Уцалеў толькі адзін, Сцяпан — Пекная Халяўка. Ён жыў у хатцы за вішнямі на агародах, у канцы мястэчка. Аб налёце даведаўся назаўтра і да вечара праляжаў у баразне бульбы — і цэлую ноч.

Над ранам вярнуўся Франак-Глянцпаперчык.

Завалаклі нас у Саколку і пытаюць, чаго мы прыехалі, кажа Глянцпаперчык. Мы гаворым, хто яго ведае, чаго прыехалі. А я думаю: «Вы прывязлі, — чаго ж пытаеце!» Потым думаю: «Папрашу — аддайце панове мае скуры ў салявым мяшочку і дзве пары някончаных ботаў з высокімі тылкамі, шваграм на вяселле. Але, не, — думаю — не папрашу — яшчэ захоча каторы, каб зрабіць модныя боты за адну ноч, як той лейтэнант з медалямі за Берлін, што сядзеў нада мною з пісталетам і дамагаўся германскага фасону...» Другія шаўцы маўчаць. Сказала ўбэ, ідзець дахаты! Калі ўбэ сказала так, усе і падумалі — прапалі скуры, боты. Пусцілі адразу ўсіх як ганьё, выйшлі мы за Саколку да Крынак, у Камянцы зайшлі да Цыганчыка і пілі да ночы. Манька Цыганчыкава набіла Абцасіка ў морду, бо Абцасік свіння.

Франак-Глянцпаперчык расказаў, як Манька біла Абцасіка.

Ну, Крынкі абулі Саколку, закончыў расказ Франак-Глянцпаперчык, і пачаў думаць, адкуль купіць скураў на боты шваграм.

Сцяпан — Пекная Халяўка спакойна пайшоў дахаты.

*

Здарылася гэта ўвесну 1947 года.

А ўвосень шаўцы пазнавалі свае боты на нагах тых, што прыехалі з лесу і грабілі краму. Грабілі краму. Грабілі ў таргогы дзень, у чацвер.

**Сакрат Яновіч**

# Выстаўка беларускай народнай творчасці



**У першым радзе (злева направа) дырэктар М. С. Собаль, намеснік старшыні ВРН Л. Ахоцкі, сакратар Гарадскога камітэта Е. Ёка і ваяводскі кансерватар Ул. Паўлючук на выстаўцы.**

У памяшканні Музея рэвалюцыйнага руху ў Беластоку адкрыта выстаўку Беларускага народнага мастацтва з **Гродна.** На ўрачыстае адкрыццё выстаўкі прыбылі: намеснік старшыні Ваяводскай рады **Людвік Ахоцкі,** кіраўнік Аддзела прапаганды КВ ПАРП **Валенты Авер** і шырокі круг адказных і высокіх дзеячаў Беласточчыны. Адкрываючы, дырэктар Акруговага музея ў Беластоку **Зофія Сакалоўская** сказала, што выстаўка Беларускай народнай творчасці з Гродна з'яўляецца працягам свят-



**Л. Ахоцкі, Я. Чапля і В. Авер ля памятнай кніжкі выстаўкі.**

кавання 50 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі адначасова заяўляючы, што падобная выстаўка народнага мастацтва Беласточчыны ўжо адбылася ў Гродне.

Потым забраў голас дырэктар Гродзенскага музея **Мікалай Собаль.** Сказаў ён, што выстаўка народнага мастацтва Беласточчыны экспанавалася ў Гродне ў кінатэатры (самае вялікае памяшканне) і што наведала яе каля 80 тысяч жыхараў. Мы да вас прыехалі, — пра-



**Найлепш захапляцца майстэрствам мастака ў адзіночку.**

цягваў М. Собаль, — толькі з невялікім зборам экспанатаў, якія выканалі рукі працоўных і служачых Гродзеншчыны. Перарэзваючы бела-чырвоную ленту адкрыў выстаўку намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Л. Ахоцкі. Аб экспанатах і народным мастацтве гаварыла прысутным **Зіна Артуховіч,** старшы метадыст Дома народнай творчасці ў Гродне, якая і з'яўлялася правадніком па выстаўцы.

Гаворачы аб выстаўцы трэба сказаць, што яна вельмі цікавая. Наведвальніку адразу кідаецца ў вочы разнастайнасць прац. Знойдзем тут скульптуру К. Каліноўскага, якую выканаў адзін з працоўных электрастанцыі,



**Зіна Артуховіч расказвае аб народным ткацтве і ўборах.**

а постаць якога з'яўляецца сімвалам беларуска-польскай дружбы. Вельмі багата прадстаўлена ткацкае аддзяленне выстаўкі. На выстаўцы экспануюцца таксама ўзоры народных убораў Гродзеншчыны. Каб іх спісаць, працаўнікі Дома творчасці выязджалі на вёскі, у асноўным да гурткоў мастацкай самадзейнасці, якіх на Гродзеншчыне каля 3 тысяч, і тут дапамагалі апрацоўваць уборы, вылоўлівалі тое, што характэрна данаму рэгіёну. Затым мясцовыя ткачыхі самі ткалі ўборы. Мы на Беласточчыне мелі магчымасць бачыць некаторыя з узораў на ўборах калектываў «Нёман» і са Смаргоні.

На выстаўцы нельга не захапіцца служачым Ю. П. Валковым з г. Слоніма, які з лісткоў дрэў выканаў каляровы партрэт Маякоўскага. Дасканалы і з мастацкім смакам зроблены з саломы з рэгіянальнымі ўзорамі партрэт Леніна выкананы Н. І. Машкоўскай. Цікавыя экспанаты Р. І. Крыловіча з дрэва, Я. Саўко ды і многіх іншых народных стваральнікаў культуры. Каб гаварыць аб выстаўцы, неабходна яе пабачыць уласнымі вачыма. Напэўна кожны знойдзе тут нешта цудоўнае, захапляючае, падобна як ніжэй падпісаны.

Выстаўка закончыцца, але астанецца дружба і ўзаемнае лепшае знаёмства адзін аднаго, таму што выстаўка гродзенскіх творцаў з народа іменна паказвае тое, што народ зрабіў і да чаго ён імкнецца.

**А. Карпюк**

# ПАРТАЧЫ

Старшыня мілейчыцкага ГС-у праглядаў нейкія паперы. Раптам у яго кабінет прымчаўся ГС-аўскі сторaж.

— Пане старшыня! Трактарам збожжавы склад развалілі!

Старшыня Пташынскі адарваў вочы ад папераў і недаверліва паглядзеў на стоража.

— Што вы, п'яны? — сказаў. — Дзе, які склад?

— Гэты новы, пане старшыня!

Старшыня супакоіўся. Калі новы, вялікай бяды няма. Баяўся за стары склад, запоўнены да адказу рознымі таварамі, збожжам і штучным угнаеннем. Яго сапраўды не цяжка было разваліць, бо ўжо ён сам развальваецца. Новы яшчэ не яго.

Новую базу мілейчыцкі ГС абсталяваў сабе ў лесе ля шашы на Клюковічы. Месца прыгожае. Пахне жывіцай, шумяць старыя сосны. ГС будуе тут гандлёвы павільён, збожжавы склад, пункт скупкі жывёлы і іншыя будынкі.

— На жаль, — гаворыць старшыня, — мы самі не будуем і не маем права будаваць. ГС з'яўляецца толькі «інвестарам», плаціць грошы і даглядае, каб усё было згодна з планам. Выканаўцам у нас з'яўляецца сельгасгуртоўская спулдзельня са станцыі Нурэц, так званы «СУВ». Яна нядаўна абсталявалася. Мы ад пачатку не мелі да яе даверу. Але іншага выканаўцы не змаглі знайсці. І пачалася ў нас гульня ў хованкі. На працягу года на нашай будове нурэцкі «СУВ» змяніў ужо хіба каля 50 сваіх будаўляных брыгад. Што адна нахалтурыць, другая папраўляе, і так без канца, як у вар'яцкім танцы. Без акрэсленага плана, без размяркоўкі работ. То падлогу зробяць абы як, каб толькі хутчэй, то дах папсуюць. Гандлёвы павільён меў быць гатовы на 15-тага мая г.г. і яшчэ канца не відаць. Налічылі мы ім ужо 45 тысяч штрафу, але нам патрэбны будынкі, добрыя, трывалыя і выгодныя, а не іх штраф. Пункт скупкі жывёлы планавана пераказаць нам у карыстанне 30 снежня г.г. Кажаце, што яшчэ астаецца крыху часу? Што з гэтага, калі ў іх сапраўды слімачы тэмп працы. Катлаван пад фундамент выкапалі яны ў лютым г.г., фундамент залілі ў... жніўні і дагэтуль нічога ўжо больш не паспелі там зрабіць. Яшчэ горш з пабудовай склада штучных угнаенняў. Паспелі толькі выкапаць яму на фундамент. Праз лета і восень дождж усё размыў, а снег і мароз зраўняе да рэшты. І прыдзецца пачынаць усё ад пачатку. Ды яшчэ гісторыя гэтага гандлёвага павільёна! Проста не вядома, ці смяяцца, ці плакаць.

Забег старшыня Пташынскі на месца пабудовы, глядзіць, вочы праціpae і сабе не верыць. Адна сцяна ляжыць развалена. Пытаецца, што здарылася? Рабочыя нурэцкай «СУВ» смяюцца:

— Узялі падчапілі мы трактар ды развалілі. Хутка і без клопату!

— Навошта?!

— А што мелі рабіць, калі гэтая чартоўская сцяна на 15 сантыметраў адышла за далёка ад «пёну». І так прышлося б разбіраць яе. Даху не было як пакласці.

Хадзілі мы са старшынёю па будучай базе мілейчыцкага ГС-у, прыглядаліся да працы рабочых. Разваленая трактарам сцяна гандлёвага павільёна была ўжо пабудавана другі раз. Рабочыя стаялі на рыштаванні і дамуроўвалі апошнія пустакі. Як доказ іх партацтва асталася гурба разбітых пустакаў.

На будове ўсюды параскіданы розныя будаўляныя матэрыялы, няма парадку. Перад такімі «будаўнікамі» барані нас Божа. Ды не толькі. На добры лад справай павінен пацікавіцца пракурор.

**В. Рудчык**

**Міхаіл Табарыскі**



КРЫНКАЎСКАЯ ГІСТОРЫЯ 2)

# У ПОШУКАХ ПРАВАКАТАРА

Міхаіл Табарыскі, выдатны дзеяч КПЗБ, у снежні 1931 года праводзіў падпольную раённую канферэнцыю КПЗБ у Крынках. Калі канферэнцыя набліжалася да канца, на могільніку, дзе яна адбывалася, (глядзі пачатак у папярэднім нумары «Нівы») паявіліся нечаканыя госці...

Я трывожна азірнуўся за сакратаром Раённай крынкаўскай партыйнай арганізацыі. Ён жыва гутарыў з прыбыўшымі. Пасля кіўком рукі папрасіў мяне і сам з адным з прыбыўшых адышоў на бок, за карчы. Я накіраваўся да іх

— Адкуль вы тут узяліся? Хто даў вам адрас канспірацыйнай кватэры? Адкуль ведаеце пароль? — засыпаў мяне пытаннямі высокі, прыгожы незнаёмы. Стаяў на шырока расстаўленых нагах, з рукамі ў кішэнях белага кажуха. Гаварыў ціха, але станоўча, суровым тонам; як на допытах.

— А вы — хто? — адрэзаў я яму і звярнуўся да сакратара:

— Хто гэта? Чаго ён хоча?

Сакратар з жахам у вачах паглядзеў на мяне і моцна збянтэжаны адазваўся ціхім хвалюючым голасам:

— Не пытайце, таварыш, скажыце ўсё, дакладна, ды хутчэй, разумееце. хутчэй, так трэба, так лепш для нас усіх.

— Будзеце гаварыць?! — прасычаў праз зубы незнаёмы, свідруючы мяне дапытлівым і варожым позіркам чорных вачэй. Пальцы яго рукі нервова варушыліся ў кішэні кажуха. Я дадумаўся, што трымае ён на пагатове пісталет. Мне кроў адыйшла з твару. Цяжка было штоколеч вырашыць. Гэтае ж, чаго патрабаваў ад мяне той чалавек, зяўлялася глыбокай таямніцай. А калі гэта хто падстаўлены паліцыяй?

Ннуу! — прасычаў незнаёмы, а сакратар умольным позіркам глядзеў мне ў твар.

Я нерашуча паглядзеў на прысутных. Яны з даверам адносіліся да майго незнаёмага. Значыць, ведалі яго і маглі. падумаць, што я правакатар. Для такіх, я ведаў, няма літасці. Крынкаўскія таварышы надта ж многа расказалі мне пра свае справы, я ведаў усіх членаў новавыбранага Раённага камітэта. Ім перш за ўсё трэба даказаць, што я не правакатар.

— Паўтарыце пытанне, — рашыў я.

— Адкуль прыехаў?

— З Беластока.

— З Беластока? — недаверліва паўтарыў незнаёмы. — Якім чынам? Праз Супрасль у Саколку? Самаходам ці падводамі?

— Цягнікам у Гродна, а адтуль у Крынкі — аўтобусам. — сказаў я.

— Хто вас сюды паслаў? Хто выявіў вам кватэру і пароль?

— Таварыш «Шура».

— Якая «Шура»?

— Інструктар ЦК, — заявіў я. — Працавала яна тут. Вы павінны яе ведаць, калі вы падпольны партыйны дзеяч. Гэта вельмі прыгожая дзяўчына.

І далей я падрабязна паясняў, як дабраўся на канспірацыйную кватэру, назваў дзве сястры краўчыхі, якія жылі на першай вуліцы ад рынку ў бок на Саколку. Яны мяне менавіта накіравалі на могільнік.

Мае пасненні відаць задаволілі прыбыўшага. Ён урэшце выняў рукі з кішэняў, а на яго твары паявілася ўсмешка.

— Выбачайце, таварыш, гэтую непрыемную гутарку, — сказаў ён. — Зразумейце аднак наша становішча. Паліцыя яшчэ сёння сядзіць у засадзе ў некаторых памяшканнях. А вы тут, на другі дзень пасля масавых арыштаў, з'яўляецеся на раённую канферэнцыю! Усё паказвала на тое, што паліцыя спрытна падставіла правакатара. Я атрымаў загад вас праверыць і калі што — застрэліць на месцы. Мы не маглі рызыкаваць. Праз Крынкі паліцыя магла б распрацаваць партыйныя ячэйкі і камсамольскія арганізацыі Бераставіцкага, Індурскага і іншых раёнаў. Надта ж высокую цану плоціць партыя за лёгкадумнасць.

Я пачуўся, быццам хто зняў з мяне камень.

— Скажыце, калі ласка, як вы так хутка даведаліся, што я тут, на Раённай канферэнцыі? — запытаў я.

 




Звычайная народная казка — наіўны, поўны дзіцячых нелагічнасцей змест, простая і скромная форма пераказу. Казка аднак можа сказаць нам аб чалавеку не менш ад найбольшых шэдэўраў сусветнай літаратуры. З'яўляецца яна найбольш стыхійным, непасрэдным праявам чалавечых уяўленняў, поглядаў і адчуванняў простага селяніна мінуўшчыны. Вялікае награмаджэнне міфаў, легендаў і казак розных народных і першабытных культур не знайшло аднак дагэтуль адпаведнай навуковай апрацоўкі, не выкарыстана гэтага матэрыялу астаткова для зразумення чалавека, а ў асаблівасці першабытнага чалавека і яго асабовасці.

Датычыць гэта, зразумела, і, а можа нават перад усім, беларускай народнай казкі. Спробы аналізу фальклорнага матэрыялу зводзяцца ў асноўным да выяўлення ў фальклоры элементаў адлюстроўваючых грамадскую сітуацыю сялян, іх непрыязныя адносіны да паноў, да пануючых парадкаў і г.д. Але апрача таго ёсць някрануты вучонымі шырокі свет народнага светапогляду, адчуванняў і спосабаў думак замкнуты ў народнай казцы.

У гэтым месцы звярну ўвагу на адну характэрную рысу народнай казкі: на паблажлівасць да рознага роду відавочных недарэчнасцей, супярэчнасцей і г.д. Найбольш відавочным праявам своеасаблівай логікі народнай казкі з'яўляецца трактаванне апісваемых казкай прадметаў, як нейкага дзіўнага спалучэння некалькіх зусім розных рэчаў. Расказчыку казкі невядомым было мабыць сцверджанне, якое лягло ў аснове ўсёй навукі і вядомай нам логікі, сцверджанне, што «ўсё, што ёсць, ёсць тым, чым ёсць». У казцы якраз наадварот: усё, што ёсць, можа быць адначасова нечым зусім іншым. Камень можа быць чортам у постаці каменя, заклятай каралеўнай, скарбам, можа ён адчуваць, разумець і г.д. Ніколі не вядома, ці сустрэты ў лесе воўк з'яўляецца толькі воўкам, ці адначасова чалавекам у постаці ваўка — ваўкалакам. Жаба ў ваколіцы хлявоў, гэта часцей за ўсё чараўніца або ведзьма, якая задумала зрабіць нешта дрэннае жывёліне.

Можа нехта сказаць, што гэта толькі мастацкі прыём казкі як літаратурнага жанру, што казка ў гэтым выпадку зусім не адлюстроўвае народнага светапогляду. Сцверджанне такое пярэчыла б аднак сведчанням этнографаў, якія, прабываючы сярод народа да канца мінулага стагоддзя, сустракаліся з жывымі ў народзе вераваннямі, якія адпавядалі казачным сюжэтам, а таксама з рознымі магічнымі дзеяннямі, падчас якіх рэчы захоўвалі гэтае сваё падвойнае аблічча.

Прычым тут аднак сны, аб якіх гаворым у загалоўку артыкула? Рэч у тым, што якраз у снах «аглядаць» можам найбольш выразна гэтую «падвойную» істоту рэчаў. Кожнаму мабыць, каму ўвогуле нешта ўночы сніцца, здаралася мець дачыненне з гэтым цяжкім да зразумення «раздваеннем» прадметаў, калі праснуўшыся не можам сабе адказаць, ці аглядаемая ва сне істота была, скажам, канём, ці нашым найлепшым сябрам — Іванам. Таму зусім абгрунтаванай выдаецца быць думка, што гэтае трактаванне паасобных прадметаў, як дзіўнага нейкага спалучэння зусім розных рэчаў, характэрнае для чалавечай псіхікі ўвогуле ў выпадку, калі чалавек не вымушаны думаць сціслымі лагічнымі катэгорыямі.

Хіба найбольш відавочным прыкладам гэтай з'явы можа быць праяўленне грошай (скарбу) у розных, часта нечаканых постацях. Вось прыклад пачэрпнуты са збораў М. Федароўскага:

«Ішоў сабе апоўначы чалавек, анно ж бачыць, гарыць агонь і кола таго агню седзіць баба, двое дзяцей і яна іх у галаве шукае. Анно як зочыла таго чалавека, так кажа: — «Чалавеку, памажы мне іх шукаць у галаве». Той думае сабе: што гэта такое? і кажа: — «Ну добра!» Падышоў, ажно даткнуўся, а ены ўсе трое: дзын, дзын, дзын! і рассыпаліся ў золата».

У іншых запісах са збораў Федароўскага золата выступае ў постаці рыцара з канём, жоўтага каня, нейкага страху, які па начах тупатаў у хаце, сабакі, ваўка, вугалю і г.д.

Гэтая шматзначнасць казачнага свету датычыць не толькі прадметаў, але і паасобных здарэнняў і сітуацый. Падзеі зусім звычайныя і простыя пераплятаюцца тут з нейкімі дзіўнымі незвычайнымі, магічнымі іх значэннямі, усё адбываецца насупярок існуючым у рэальным свеце прапорцыям і велічыням. Толькі дзякуючы гэтаму казачнаму ўспрыманню можна спакойна слухаць беларускай казкі аб хлопчыку велічынёю ў мязінны палец, які шпарка араў бацьку поле звычайным плугам і звычайнымі конямі, хаця ніхто не мог бы сабе наглядна ўявіць, як ён гэта рабіў.

**Уладзімір Паўлючук**

Нашы настаўнікі

# ДЗЕЙНАСЦЬ ТЭКЛІ ВАШЧУК

Настаўніца беларускай мовы Мілейчыцкай школы Тэкля Вашчук наладзіла сабе цікавую і надта карысную беларусам працу. На першым месцы, вядома, з'яўляецца дзейнасць над прывіваннем у дзетак любві і пашаны да роднай мовы. Дзякуючы намаганням гэтай таленавітай настаўніцы існуе ў школе развіты дэкламатарскі рух — нядаўна пісалі мы аб пастаноўцы тут паэмы «Кастусь Каліноўскі» Міхася Машары.

Але гэта яшчэ не ўсё. Тэкля Вашчук паказала мне аздобны альбом. Незвычайны гэта альбом, зроблены вучнямі, упрыгожаны беларускім арнаментам. У гэтым альбоме знаходзяцца запісы мясцовых беларускіх народных песень, прыказак, прымавак, адгаданак. Запісана іх ужо шмат, робяць гэта вучні-выхаванцы Тэклі Вашчук. Гэты альбом мае пазнаўчую каштоўнасць — і варта падумаць над апублікаваннем яго ў адным з выданняў ГП БГКТ, напрыклад, у «Беларускім Календары».

Трэба шчыра дзякаваць Тэклі Вашчук за яе бескарысную працу па беларусазнаўству і будаванню здаровай нацыянальнай свядомасці нашага падрастаючага пакалення. Вялікая шкода, што падобнай працай займаюцца ў нас толькі некаторыя настаўнікі.

(ся)

# УРАЧЫСТАСЦЬ ВЯЛІКАГА МЕРАПРЫЕМСТВА



**Сакратар ГП Ул. Юзвюк уручае ўзнагароду кіраўніку грамадскай бібліятэкі ў Кляшчэлях Надзі Бахенэк.**

У памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ, 20 лістапада г.г., сабраліся незвычайныя госці. Гасцьмі былі лепшыя з найлепшых, удзельнікі вялікага чытальніцкага конкурсу пад лозунгам **«Беларуская кніжка ў руках масавага чытача».** У скромна прыбранай зале — ўрачыста. Здаецца, што так багатага мерапрыемства БГКТ не перажывала. А здаецца таму, што конкурс ахапіў вялікую колькасць суарганізатараў. Галоўным арганізатарам мерапрыемства была **Ваяводская бібліятэка ў Беластоку разам з «Нівай» і БГКТ.** Смела можна сцвердзіць, што бібліятэкі паказалі, як можна і трэба ўдзельнічаць у развіцці культуры нацыянальнай меншасці.

Крыху ўсхваляваныя лаўрэаты конкурсу, чытачы і бібліятэкары з увагай слухаюць словы дакладаў. Першы з іх «Развіццё чытальніцтва на беларускай мове ў 1967 г.» інструктара Ваяводскай бібліятэкі **Станіславы Штукоўскай** і даклад падсумоўваючы конкурс дырэктара бібліятэкі **Уладзіслава Малеўскага.** І зноў ціснуцца словы, каб сказаць, што даклады прадуманыя, якіл абапіраюцца на ліках і доследах працаўнікоў бібліятэк. А гэта надта істотнае ў кіраванні чытальніцтвам.

Конкурс распачаўся 1 снежня 1966 г., а закончыўся 10 лістапада г.г. Мэта конкурсу — распаўсюджванне чытальніцтва беларускай кніжкі ў асяроддзях, дзе пражывае беларускае насельніцтва. Вынікі конкурсу былі надта плённыя, бо калі чатыры гады таму назад арганізавана такое ж мерапрыемства на конкурс уплыло 60 купонаў, а ў гэтым годзе чытачы прыслалі каля **1.100 купонаў,** у якіх выказаліся на тэмы прачытаных твораў.



**Марыся Мароз і Янка Блізнюк з «Лявоніхі» ўміляюць сустрэчу песнямі.**

Найбольшы ўклад у конкурсную дзейнасць улажылі **бібліятэкі Бельшчыны** (552 купоны) і Гайнаўшчыны (448 купонаў). Зрэшты, справа конкурсу не зводзілася толькі да колькасці купонаў. Напрыклад, ва ўсіх грамадскіх бібліятэках Бельскага павета былі арганізаваныя тэматычныя выстаўкі беларускіх кніжак, праведзена 11 дыскусійных вечарын, 30 вечарын казак, 16 праглядаў часопісаў і 8 праглядаў конкурсных кніжак. Гайнаўская бібліятэка закупіла аж 360 новых беларускіх кніжак, арганізавала 18 аўтарскіх сустрэч, у тым ліку з журналістамі «Нівы», было арганізавана 10 калектываў чытання ў голас. Адным словам, праведзена аграмадную працу, вопыт якой астанецца і на далейшыя не конкурсныя дні. І зноў насоўваецца чарговае пытанне: на колькі конкурс прычыніўся да развіцця чытальніцтва беларускай кніжкі? Коратка кажучы, што калі ў мінулым годзе ў Бельскім павеце было 1.251 чытачоў кніжак на беларускай мове, дык у 1967—1.498, а пазычана беларускіх кніжак на 1.614 больш, чым у мінулым годзе (дадзеныя датычаць першага паўгоддзя). Гаворачы аб аптымістычных ліках, нельга забываць, што ў Сямяціцкім і Сакольскім паветах лік чытачоў і пазык у гэтым годзе нешта паменшыўся.

Пасля дакладаў наступае момант уручэння рэчавых узнагарод лаўрэатам конкурсу. Ад імя арганізатараў уручае іх сакратар Галоўнага праўлення БГКТ **Уладзімір Юзвюк.** Перад гэтым, рэдактар Вера Валкавыцкая, яшчэ раз прыпамінае прысутным найбольш цікавыя выказванні ўдзельнікаў конкурсу, а сярод гэтых прозвішчаў — людзі нашых вёсак, якія памятаюць гнёт царызму і «паноў», людзі, якія адстаялі нашу айчыну, студэнты, вучні, моладзь.

Хвалюючыя моманты афіцыйнай урачыстасці заканчваюцца. Але астаецца сямейная атмасфера. Пры шклянцы кавы ўдзельнікі конкурсу дзеляцца сваімі ўражаннямі. Расказвае, напрыклад, удзельніца з Кляшчэляў аб тым, як мясцовая бібліятэкарша запрапанавала ёй, простай хатняй гаспадыні, прыступіць да конкурсу, як яна ўпершыню знаёмілася з беларускай літаратурнай мовай, як вучылася чытаць і як моцна палюбіла гэтую мову. Кіраўнічка бібліятэкі ў Рыбалах гаворыць аб тым, як арганізавала конкурс у бібліятэчных пунктах сваёй бібліятэкі. Урачыстасць уміляюць госці з Гродзеншчыны, якія якраз прыбываюць, каб наведаць Галоўнае праўленне. Размовы суседскія, шчырыя і дружалюбныя працягваюцца...



**Гутарка ў сямейнай атмасферы.**

Урачыстасць падсумавання Вялікага беларускага чытальніцкага конкурсу заканчвае выступленне эстрады «Лявоніха». Надоўга астануцца ў памяці новыя песні эстрады і прыгожыя галасы членаў «Лявоніхі».

**А. Карпюк**
фота аўтара



**Удзельнікі ўрачыстасці.**

Ехалі вы праз Алекшыцы?

— Так, — пацвердзіў я. — Нават сустрэў там аднаго добрага свайго знаёмага, калі аўтобус спыніўся на прыпынку. Гэта вучань Віленскай беларускай гімназіі. Ці ж бы ён западозрыў мяне?

— Не, ваш знаёмы ў нічым вас не падазраваў. Ён сапраўды добра вас ведае, а яшчэ лепш вашых братоў: Рамана і Валодзю. Расказваў нам, як Раман наладжваў пастаўкі харчавых пачак палітычным вязням на Лукішках і на вуліцы Стэфанскай у Вільні, як Валодзя супрацоўнічаў з пасламі «Змагання», як ён разам з вамі пячаталі на беларускай мове ў пасольскім клубе «Змагання» ля вуліцы Вострабрамскай ў Вільні камуністычную літаратуру, як вы кіравалі там камсамольскай «тэхнікай». Бачыце, ён моцна вас бараніў, але ён вас ведаў 2 гады таму назад, а людзі мяняюцца. Не было тады выхаду. Аднак забудзьце ўжо аб нашых спрэчках. Для «Шуры» перадайце, хай не турбуюцца, не ўсіх членаў Акруговага камітэта ўдалося арыштаваць паліцыі. Вось я таксама ўцёк, хаваюся. А цяпер ідзем, таварышы чакаюць.

Мы разам вярнуліся да крынкаўскіх падпольшчыкаў.

**Апрацаваў В. Рудчык**

**На здымку: Міхаіл Табарыскі цяпер.**



 




## УДЗЕЛ БЕЛАРУСКІХ СЯЛЯН У ПАЎСТАННІ БАГДАНА ХМЯЛЬНІЦКАГА

У 1648 годзе украінскі народ на чале з Багданам Хмяльніцкім падняўся на барацьбу супроць прыгнёту магнатаў і шляхты. Беларускія сяляне і гарадская бедната са спачуваннем і надзеяй прыслухоўваліся да вестак аб геранчным змаганні брацкага украінскага народа. Многія з іх пакідалі свае сем'і і хаты і тайком падаваліся на Украіну. Там яны далучаліся да войск Хмяльніцкага.

Хмяльніцкі пасылаў у Беларусь пасланцоў. Яны прыходзілі пераапранутыя за жабракоў, гандляроў, манахаў і заклікалі насельніцтва вёсак і гарадоў да паўстання супроць прыгнятальнікаў. Летам таго ж года ў многіх мясцовасцях Беларусі пачаліся сялянскія хваляванні. У гарадах і мястэчках рамеснікі гаварылі адкрыта, што яны чакаюць прыходу войск Хмяльніцкага.

У хуткім часе паявіліся на беларускіх землях казацкія атрады з Украіны. Яны лоўка пранікалі ва ўсе куткі краіны, бо ў іх было шмат людзей з беларускіх сёл і гарадоў. Да казацкіх атрадаў гурмам далучыліся сяляне, жыхары гарадоў і незаможная шляхта. Колькасць і сіла паўстанцаў узрастала з кожным днём.

Паўстанчаскія атрады займалі і знішчалі панскія маёнткі, сурова распраўляліся з панамі, шляхтай, каталіцкім і уніяцкім духавенствам. Знішчалі ўсё, што напаміна́ла аб прыгоннай няволі. Здабытае дабро раздавалі бяднейшаму насельніцтву.

Насельніцтва беларускіх вёсак і гарадоў радасна сустракала паўстанцаў. Мяшчане Гомеля, Лоева, Брагіна, Пінска самі расчынялі перад імі вароты гарадскіх крэпасцей.

Напалоханыя паны, каталіцкае і уніяцкае духавенства ўцякала за межы Беларусі.

Пад восень паўстанне ахапіла амаль усю Беларусь.

Магнаты і вышэйшае каталіцкае і уніяцкае духавенства пад кіраўніцтвам гетмана Януша Радзівіла пачалі спешна збіраць войскі супроць паўстаўшых. Сваімі сіламі справіцца з паўстаннем яны не маглі і таму наймалі нямецкую, шведскую і венгерскую конніцу і пяхоту і накіроўвалі яе ў Беларусь.

Паўстанне ж усё ўзрастала на сіле.

Беларусіяна

## Федароўскі і польская фалькларыстыка

**У VI томе гадавіка «Etnografia Polska» надрукавана артыкул Ежы Дамраша пад загалоўкам: «Na marginesie edycji materiałów rękopiśmiennych Michała Fedorowskiego». Дамраш сцвярджае, што выпуск чарговых тамоў працы Федароўскага «Lud Białoruski» з'яўляецца праявай адраджэння беларускай праблематыкі ў пасляваеннай польскай навуцы і павінна прычыніцца да новых форм супрацоўніцтва польскіх і беларускіх даследчыкаў, для якіх матэрыялы Федароўскага могуць стацца падставай супольных доследаў і дыскусій. У далейшай частцы артыкула Дамраш піша аб некаторых праблемах звязаных з выданнем рукапіснай спадчыны Федароўскага.** (п)

БАЦЬКАМ ПАД РАЗВАГУ

Дзіцячыя капрызы надта надакучлівыя. Некаторыя трымаюцца мудрасці продкаў: чым бы дзіця не цешылася, абы не плакала. Большасць бацькоў лічыць, што найлепш будзе, калі накрычым на дзіця.

Дзіцячыя капрызы бываюць з прычыны хваробы або launch пeратомленасці: просіць то адно, то другое, хныча. Такія капрызы могуць цягнуцца не толькі тыднямі, але месяцамі. У такіх выпадках нельга караць малышыка, высмейваць ці не лічыцца з ім. Па праўдзе кажучы, яго капрызы — просьба аб дапамогу. Трэба старацца супакоіць дзіця, задаволіць яго просьбу — калі можна — і чым хутчэй пайсці з ім да лекара.

Ну, а калі дзіця здаровае і капрызіць. Што тады рабіць? Рэцэпта на гэта няма, трэба самому вырабіць найбольш разумны падыход да свайго дзіцяці.

Напрыклад, разбіты вазон з кветкамі, сынок быў адзін у хаце. Праўда, быў і кот. Сынок кажа: гэ-




та кот скокнуў на акно і перакінуў вазон. Не паверылі, накрычалі або і збілі лейцамі. Назаўтра сынок не захацеў ісці па хлеб, а калі яго прымусілі, сказаў, што не было такога хлеба, якога хацелі. Такія дзіцячыя капрызы, гэта форма пратэсту на несправядлівасць ці нядобрасумленнасць дарослых. Яны вынікаюць у такіх сітуацыях, калі дзіця безупынку «трымаецца коратка», абгароджваецца яго шматлікімі забаронамі, не дазваляецца яму на самастойнасць. Частыя хаця і бяссільныя слёзы — гэта няўмелыя спробы абараніць свае правы.

Дзіця не заўсёды плача. Часамі яно проста аддаляецца ад бацькоў, адварочваецца — пачынае жыць сваімі справамі. Трэба пагаварыць з дзіцём па шчырасці, выясніць крыўды і прэтэнзіі, прызнацца да сваіх памылак і нават перапрасіць дзіця. Гэтым мы не падарвем свайго аўтарытэту, наадварот — здабудзем дзіцячы давер.

Частыя канфлікты са старэйшымі, крыўдаванне дзяцей ва ўзросце каля чатырнаццаці год, выкліканы тым, што падростак стараецца самастойна думаць, пачынае чуцца дарослым. А старэйшыя надалей лічаць іх за малых дзяцей. Відаць з таго, што старэйшым трэба змяніць манеры ў адносінах з падросткамі, перастаць пакрыкваць на іх, глядзець на іх звысоку — або сюсюкаць над імі, задобрываць іх. Адно і другое шкоднае, адно і другое выклікае злосць у дарастаючага дзіцяці, рвуцца ніткі паразумлення паміж бацькамі і дзяцьмі.

Ёсць дзеці, якія капрызяць для самой прыемнасці капрызіць, каб на яго ўсе зварочвалі ўвагу. Дзіця хутка вырабляе сваю тэхніку капрызнасці. Малыя дыпламаты хутка ўсведамляюць сабе, што тата ніяк не рэагуе на плач, і плачам нічога не даб'ешся ад яго, але затое бабуля адразу паддаецца. Капрызы вынікаюць таксама і ад разладу ў сям'і, калі слова перастае цаніцца: тата забараняе, а мама дазваляе. Моцныя словы **«не можна»** павінны быць уганараваны і татам, і мамаю. Іначай, гэтыя словы перастаюць мець значэнне.

(а-ся)




### ДЗЕД-ГОСЦЬ

Ходзіць дзед белабароды
Полем, лесам, пералескам,
Засцілае рэчкі лёдам,
Брыльянцістым снежным блескам.

Сыпле іней на бярозы,
Туліць дрэвы лёгкім пухам,
Крые руні, травы, лозы
Белай воўнай-кажухам.

Дзеда ўсюды носяць ногі,
І к нам прыйдзе на хвілінку
Адпачыць крыху з дарогі,
Важна сеўшы на ялінку.

А ялінка!.. Чаго толькі
На яе няма галінках!
Свецяць зоркі і вясёлкі
У бліскучых павуцінках.

Тут лісічка, зайчык, мышкі,
Рыбкі, буслік даўгавязы.
А як ззяюць на ёй шышкі,
Нібы ў іх гараць алмазы!

Каля ёлкі карагоды,
Песні, гутарка жывая...
А той дзед белабароды
Толькі ў вусы смех пускае.

Дык рассунем кола шырай,
Патанцуем на памосце,
Песняй звонкай, песняй шчырай
Прывітаем дзеда-госця.

**Якуб Колас**

1. Знайдзіце ў вершы метафары і акрэсліце, якія з іх найлепш падаюць настрой і змест верша.
2. Якую пару года вы найлепш любіце і чаму?

**Біяграфічная даведка**

ЯКУБ КОЛАС (1882—1956). — Сапраўднае яго прозвішча Канстанцін Міцкевіч. Выдатны беларускі паэт, празаік, драматург і крытык, аўтар шматлікіх вершаў, апавяданняў, паэм, аповесцей і раманаў. Пачаў друкавацца ў 1906 годзе. Тэматыка яго твораў разнастайная. У дакастрычніцкі перыяд шмат месца ў сваіх творах прысвячае жыццю беларускага селяніна. Пасля рэвалюцыі піша аб грамадзянскай вайне, аб станаўленні савецкай улады, вольнай і радаснай працы простых людзей савецкай краіны, аб дружбе народаў, аб геранчнай Чырвонай Арміі, аб Камуністычнай партыі. Важнейшымі яго творамі з'яўляюцца: паэмы «Сымон-музыка» і «Новая зямля», раман «На ростанях». Шмат твораў напісаў для дзяцей.




### ДВА ЛАГЕРЫ

Ва Усходнім пакоі стаяла поўная цішыня. У Авальным кабінеце было гола і пуста, але ў кабінеце віцэ-прэзідэнта даўно не наглядалася такога ажыўлення. У тую раніцу існавала проста-такі адчувальная, бачная граніца паміж двума ўрадамі. На адным баку двайнога раду аўтамабіляў стаяў элегантны стары будынак, па якім нябачна блукаў дух самага маладога з людзей, якія калі-небудзь выбіраліся на пасаду прэзідэнта; на другім баку вуліцы заклапочаныя людзі накіроўваліся ў новы будынак і стрымгалоў выляталі з яго. Той-сёй пераходзіў гэту граніцу. Сярод іх быў і сам Джонсан. Усе, аднак, усведамлялі яе наяўнасць, і кіраўніцтва дзяржаўнага апарату было расколата на два лагеры. На адным баку спектра былі «вернападданыя» — Шлезінгер, Тэд Сорэнсен, О'Донел і іх лідэр Роберт Кенедзі, які выйшаў пасля месы, нягледзячы на пахмурнае надвор'е, у цёмных акулярах, каб схаваць свае распухлыя вочы. На процілеглым баку стаялі рэалісты — людзі, накшталт Мака Бандзі, які шмат разоў напамінаў іншым членам групы Кенедзі, што «прадстаўленне павінна працягвацца», і заявіў, што ён сам мае намер заставацца на пасадзе да таго часу, пакуль прэзідэнт Злучаных Штатаў будзе мець патрэбу ў ім і захоча бачыць яго побач з сабой.

Сорэнсен глядзеў на гэта зусім інакш. А палове восьмай вечара ён з'явіўся да прэзідэнта, які пажадаў параіцца з ім, што рабіць з супрацоўнікамі апарату. Сорэнсен спакойна адказаў.

— Перад вамі стаіць праблема двайкага роду: што рабіць з людзьмі, якія не захочуць прапанаваць вам свае паслугі, і што рабіць з тымі, хто прапануе іх занадта ахвотна?

Гэты апошні намёк быў досыць тонкі, але той-сёй адчуў яго даволі востра.

Па меры таго, як дзень набліжаўся да вечара, пачуццё горычы і крыўды ў асобных людзей абвастралася.

І Шлезінгер, і Гэльбрэйт, і Бандзі — усе былі запрошаны ў Белы дом з Гарвардскага універсітэта. О'Донел за ўвесь дзень так ні разу і не з'явіўся ў віцэ-прэзідэнцкім кабінеце, хоць О'Брайен заходзіў туды абмеркаваць новы манеўр у кангрэсе, які паскорыў бы продаж пшаніцы Расіі, а Сарджэнт, Шрывер быў рэалістам, з якой бы меркай да яго не падысці. Імкнучыся садзейнічаць упарадкаванай змене ўрада, Шрывер перасек Уэстакзек'ютыўавеню і сам прапанаваў свае паслугі. Калі ён паспрабаваў злучыць дзве групы ў адно і нарваўся на «моцны зенітны агонь», ён стаў у тупік. «Вернападданыя», захопленыя неадольным патокам пачуццяў, цвёрда вырашылі праявіць поўную павагу да забітага прэзідэнта. Рэалісты ігралі карысную і цяжкую ролю, і гісторыя, зусім магчыма, паставіць іх на больш высокую прыступку, бо яны сапраўды аказалі краіне вялікую паслугу ў гэты час.

Загіпнатызаваная катафалкам краіна і не падазравала аб існаванні канфлікту ва ўрадзе. Ні пра што іншае, акрамя ўчарашняй смерці і маючага адбыцца пахавання, было немагчыма думаць. Х'ю Сайдзі ўгаворваў (дарэмна) рэдакцыю часопіса «Тайм» не змяшчаць партрэт новага прэзідэнта на вокладцы да наступнага нумара, які павінен быў выйсці праз тыдзень, таму што «Джонсан нікога не цікавіць». І ён сапраўды тады цікавіў нямногіх. І тым не менш вельмі цікава прасачыць за яго настроямі ў першы поўны дзень на пасадзе прэзідэнта. Натура гэтага чалавека зменлівая, накшталт хамелеона, ніколі не праступала з большай нагляднасцю. Яшчэ ніколі не было стольхіх непадобных адзін на аднаго Ліндана́ў Джонсанаў. Яго памочнік Джордж Рыдзі ўбачыў Ліндана-празорцу.

— Усё было ў стане паўнейшага хаосу, — успамінаў пазней Рыдзі. — Адзін прэзідэнт ведаў, што робіць.

Кенета Гэлбрэйта сустрэў правадыр левацэнтрыстаў.

— Я хачу самым рашучым чынам заняцца грамадзянскімі правамі, — звярнуўся да яго Джонсан, — і не таму што па гэтаму шляху ішоў Кенедзі, а таму, што гэта мой шлях. Не забывайце, што я імкнуся да ліберальнай палітыкі таму, што я дэмакрат рузвельтаўскага напрамку.

Прэзідэнт у поўнай ступені выкарыстаў свой дар агаляць то тую, то другую грань свайго характару, каб кожны з наведвальнікаў пайшоў ад яго з пачуццём цеплыні і ўпэўненасці. Пакольк і наведвальнікі ўваходзілі па адным, ён дабіваўся поспеху амаль у кожным выпадку. «Вернападданыя», хоць яны

# ТРЫБУНА чытачоў

## ВУЧНЁЎСКІЯ КААПЕРАТЫВЫ

Сучасная школа, гэта не толькі адны ўрокі. У школе дзейнічае шмат арганізацый. Сярод іх важнае месца займае вучнёўскі кааператыў. У гэтай арганізацыі дзеці вучацца вельмі многа: ад гаспадарнасці па навуку вясці розныя кніжкі аблічэнняў. У апошні час адбылася ў Гайнаўцы нарада апекуноў гэтай арганізацыі. Яна была прысвечана аналізу работы ў мінулым годзе.

На Гайнаўшчыне дзейнічае 30 вучнёўскіх кааператываў, у якіх ёсць 2540 членаў. Варта адразу адзначыць, што колькасць членаў не захапляе Павятовай камісіі вучнёўскіх кааператываў. У школах, пры якіх існуюць гэтыя кааператывы, налічваецца 6137 вучняў. Вельмі мала членаў у такіх школах, як Чаромуха асада — 50 на 524 вучні, Белавежа — 100 на 460, Новае Беразова — 31 на 155. Настаўнікі, якія апякуюцца гэтымі кааператывамі, павінны звярнуць большую ўвагу на павелічэнне колькасці членаў. Адначасова трэба сказаць, што Гайнаўшчына мае і свае дасягненні. Абароты дасягнулі сумы 828 000 зл. Найвышэйшыя вынікі мелі кааператывы ў школе № 1 у Гайнаўцы — 235 000 зл, ліцэі № 9 — 169 000 зл і інш. Маёмасць гэтых 30 кааператываў налічвае 172 185 зл. Толькі ў мінулым годзе чысты даход быў ад 150 зл да 13 000 зл. Гэтыя грошы былі запрацаваны вучнямі ў школьных крамах і ў час іншых прац. У кааператывах вядуцца такія раздзелы, як гадоўля, дакармліванне дзяцей, культурна-асветныя і г.д. Працы ёсць вельмі многа. Тут вялікая праца настаўнікаў і дзяцей. Настаўнік павінен добра паставіць арганізацыйна дзяцей. Трэба сказаць, што дзеці вядуць сваю працу добра. Цікава, што тут больш справядлівасці і няма манка. Ці не варта дарослым крамаршчыкам паглядзець на дзяцей? На Гайнаўшчыне многа добрых настаўнікаў, якія вядуць гэтую работу. Да іх залічым Пятра Буру — павятовага інструктара, Пелагею Панецкую, Васілевіча і іншых.

**Аляксандр Закройшчык**
Кленікі
пав. Гайнаўка

## ПОМНІК У ВЭРПЭХАХ



13 ліпеня 1941 г. гітлераўцы расстралялі 9 жыхараў вёсак Гусакі, Мулявічы, Альшаніца і Сталавач. Былі гэта працаўнікі сельсавета з перыяду савецкай улады.

Напярэдадні 50-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі на месцы гітлераўскага злачынства ў вёсцы Вэрпэхы Новыя адкрыта загінуўшым помнік ад грамадства Бельскага павета. Помнікам апекавацца будзе школа з Альшаніцы.

Тэкст і фота: **П. Зінкевіч**




Жыву я на вёсцы. Пасябравала я з хлопцам, які адбывае вайсковую службу. Хлопец гэты з маёй вёскі. Ён вельмі часта прыязджаў у водпуск, і мы заўсёды сустракаліся. Хадзілі на забавы, з якіх заўсёды ён адводзіў мяне дамоў. Бацькі мае былі вельмі задаволены, ім падабаецца мой хлапец. За некалькі дзён ён выходзіць з войска. Хацела я, каб ён зараз жа ажаніўся са мною, бо я спадзяюся дзіцяці. Аднак ён ужо ад нейкага часу забыў пра мяне, а мне вельмі крыўдна, а таксама сорамна ад людзей. Думаю ўжо не аб сабе, але аб дзіцяці, якое мае нарадзіцца. Парай, Сэрцайка, што мне рабіць.

**Алёнка**
з Бельскага павета

**Дарагая Алёна!**

Спачуваю табе, сітуацыя сапраўды невясёлая. Не напісала ты ў сваім пісьме, ці хлапец твой ведае аб гэтым, што ты цяжарная, ці не. А гэта вельмі важна, бо вядома тады, чым тлумачыць яго маўчанне. Раю табе аб гэтым сказаць перш за ўсё сваёй маці і пачакаць тых пару дзён, пакуль хлапец вернецца з войска. Добра, што ён з тваёй вёскі, тады лёгка яго сустрэць, як толькі вернецца дамоў. Пры сустрэчы пагавары найперш з ім ты, мо вы самі як найхутчэй вырашыце гэтую справу, запісаўшыся ў ЗАГС-е. Калі б хлапец паступіў з табой інакш, тады павінна быць хуткая інтэрвенцыя тваіх бацькоў. Ну, а бацькі, думаю, як людзі старэйшыя і якія ведаюць жыццё, патрапяць уладзіць справу. Аднак мусіш памятаць аб тым, што калі твой хлапец не захоча з табой ажаніцца, няма правоў, якія б прымусілі яго да гэтага. Прымусіць можна толькі да аліментаў, а гэта не развязвае справы. Вось Алёнка, як дорага каштуе твая лёгкадумнасць.

Жадаю ўсяго найлепшага
Сэрцайка

## ПАДАРУНАК ГАРАДОЦКАМУ ДОМУ КУЛЬТУРЫ

Аляксей Казёл з Беластока падарыў нядаўна для Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку 71 том кніжак. Дзякуем. Адначасова паведамляем, што хоць наша акцыя збірання кніжак для Дома культуры імя К. Каліноўскага закончылася, далейшыя кніжныя падарункі ахвотна прыме бібліятэка гэтага дома. Туды і трэба накіроўваць кніжкі. Адрас: Gródek, Dom Kultury im. K. Kalinowskiego pow. Białystok.

## СОЛТЫС

Рэдка ў нас сустракаецца, каб солтысам была жанчына. У грамадзе Дубічы Царкоўныя выпадкаў такіх не было. 12 лістапада г.г. у вёсцы Тафілаўцы адбыліся выбары солтыса. Выбрана солтысам вёскі Марыю Пень. Трэба адзначыць, што выбары былі тайныя. М. Пень член партыйнай арганізацыі і ахвярны дзеяч вёскі. Яна і грамадскі радны. Жанчына гэта заваявала ў сваіх аднавяскоўцаў вялікую пашану і аўтарытэт. І яны ведалі, хто найлепш справіцца з усімі праблемамі.

**М. Панфілюк**

## ПРЫКЛАДНЫ ГАСПАДАР



**М. Баканач за працай.**

Міхаіл Баканач з'яўляецца жыхарам вёскі Новае Ляўкова (Гайнаўскі павет).

Аднавяскоўцы ведаюць яго як прыкладнага гаспадара і добрага столяра.

Ён патрапіць зрабіць не толькі акно, дзверы, бочку, але і пабудаваць дом. Многа дамоў за сваё жыццё пабудаваў у акалічных вёсках Міхал Баканач. Апрача таго вядзе доследныя палеткі. Дагэтуль вырошчваў ён бульбу, авёс, жыта і заўсёды з добрымі вынікамі. Мае ён свае сельскагаспадарчыя машыны, карыстаецца ў працы электрарухавіком.

**Я. Цялушэцкі**

## ВУЧОБА

У Дубічах Царкоўных партыйная вучоба адбываецца два разы ў месяц. На яе многа прыходзіць і беспартыйных людзей, таму што лекцыі цікавыя.

Таксама ў Дубічах Царкоўных праводзіцца вучоба членаў Лігі жанчын. У гэту жаночую арганізацыю ўваходзяць амаль усе жанчыны гэтай вёскі. Лекцыі адбываюцца адзін раз у тыдні. Слухачы могуць навучыцца тут кулінарыі, гадавання па-сучаснаму жывога інвентара, вырошчвання гародніны і нават... нешта з медыцыны і інш.

**М. Панфілюк**

па-ранейшаму з недавер'ем паглядвалі на калег, якія бегалі ў пакой 274 у новым будынку ўрада, бачылі Ліндана настолькі простым і пакорлівым, настолькі засмучаным уласнымі пакутамі, што гэта не магло не зрабіць уражання нават на Тэадора Сорэнсена і Артура Шлезінгера. Англійскаму паслу сэру Дэвіду Ормсбі-Гору гэты Ліндан адрывіста сказаў:

— Калі б маёй сям'і прыйшлося прагаласаваць — заставацца мне ці не, тры галасы былі б пададзены за неадкладны ўход, а, магчыма, і ўсе чатыры.

Гэты Ліндан знік, і з'явіўся зусім іншы, які даваў празорлівыя парады Лары О'Брайену адносна аднаго з тэхнічных аспектаў парламенцкай працэдуры. Немагчыма сумясціць тыя шматлікія, непадобныя адна на адну ролі, у якіх паўставў тады прэзідэнт. Але застаецца фактам, што кожную з іх ён сыграў з бляскам і ў поўнай ступені заслужыў апладысменты. Толькі вельмі наіўны чалавек быў бы абураны іх разнастайнасцю; Джон Кенедзі быў бы ў захапленні ад гэтага відовішча. У якой з гэтых ролей перад намі паўставаў сапраўдны Джонсан, няхай лепш адкажуць яго біёграфы.

Ён імгненна набыў новую рухаючую сілу, і тыя, хто сумняваўся ў яго мудрасці, не маглі ўсумніцца ў яго энергіі Ён не раз званіў па тэлефоне Джону і Нелі Конэлі ў Парклендскі шпіталь ён рэзка паспрачаўся з вытрыманым, але цвёрдым, як скала, Нікам Катцэнбахам аб тым, ці павінна расследаваць забойства федэральная або тэхаская камісія; ён у сваім лепшым стылі падагнаў Эдгара Гувера, які накіраваў цэлыя арміі сваіх агентаў у Лаўфілд; ён аб'явіў панядзелак днём нацыянальнай жалобы; ён прыняў члена Вярхоўнага суда Артура Гольдберга; нарэшце, ён знайшоў час, каб сфатаграфавацца з Дзінам Раскам, Макджорджам Бандзі, Робертам Макнамарам і Дуайтам Эйзенхаўэрам, і ў 5 гадзін 13 мінут пасля абеду гэтыя фотаздымкі ўжо былі перададзены службамі фотахронікі («Першыя фотаздымкі Ліндана Бейнса Джонсана за работай на пасадзе прэзідэнта»).

На менш адказных пасадах ёсць прамая ўзаемасувязь паміж распачатымі намаганнямі і вынікамі, што атрымліваюцца, але на пасадзе прэзідэнта, як Кенедзі мог бы расказаць Джонсану і як сам Джонсан не без смутку пераканаўся на ўласным вопыце ў гэты свой першы дзень, тыя суадносіны не маюць ніякага сэнсу. Сапраўды гістарычныя дасягненні могуць быць прыпісаны кіраўніку дзяржавы ў момант, калі ён спіць, а калі ён не спіць, ён можа працаваць да знямогі, як раб, і нічога не дабіцца. Гэта субота Джонсана была накшталт крывой, якая раптам рэзка падала ўніз, потым узлятала ўверх і так ні на чым і не спынілася.

**(Працяг будзе)**




Ноччу 18 лістапада г.г. у вёсцы Адрынкі, Гайнаўскі павет, зладзеі сарвалі ломам замкі на дзвярах мясцовай крамы і забралі каля 2500 зл, наручны гадзіннік за 700 зл, 17 паўлітровак спірту і шакалад. Агулам затраты ацэньваюць на суму 6.500 зл.

Пракурор у Сямяцічах загадаў арыштаваць Мікалая Кусачука, Пятра і Васіля Бандарчукоў з Волькі Нурэцкай, якія 15 лістапада ў вёсцы Тымянка пабілі Васіля Тынкевіча.

Шафёр грузапад'ёмнага крана Зыгмунт Браўн у час працы на будоўлі ПОМ у Сямяцічах зачапіў жураўлём за электралінію высокага напружання. Рабочы Вінцук Лапінскі, які знаходзіўся побач, хацеў у той момант адкрыць дзверы шафёрскай кабіны. Калі толькі дакрануўся да клямкі, ударыў яго электраток. Непрытомнага адвезлі ў бальніцу, дзе незадоўга памёр. Асталося 4 дзяцей і жонка. Лапінскаму было 44 гады.

Пракурор у Гайнаўцы загадаў арыштаваць Сцяпана Врублеўскага, 25 год, за тое, што ў вёсцы Паграбы ноччу 30 верасня г.г. пабіў штахетай Леваня Высоцкага.

Яніну-Барбару Пухальскую з Гайнаўкі, вуліца Варынскага 13, якой зараз 19 год, ведалі з таго, што яна любіла «кахацца» за грошы. Яна таксама не ганьбавала чужым дабром. 28 кастрычніка г.г. сцягнула з рукі п'янага Пятра Галёнкі гадзіннік «Родіна» за 1000 зл, а 9 лістапада ў сваім памяшканні абакрала п'янага Альфрэда Вайдаловіча. Павятовая камендатура МО рашыла арыштаваць зладзейку.

**Асака**

# КІНО

**Праграма на 12—17.XII.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Druga młodość cioci" (węgierski), 12—13. „Czarne i białe" (USA), 14—15. „Lebiediew contra Lebiediew" (radz.), 16—17.

**Кляшчэлі**
„Dialog" (węgierski), 12—13. „Wieczór trzech króli" (radz.), 14—15. „Sam pośród miasta" (polski), 16—17.

**Дубіны**
„Pancernik Potiomkin" (radz.), „Pluton 317" (franc.), 16—17.

**Нараўка**
„Matczyne serce" (radz.), „Pierwszy dzień wolności" (polski), 13—17.

**Нарва**
„Upiór z Morsville" (czeski), „Zwyczajny faszyzm" (radz.) 13—17.

**Чыжы**
„Biała pani" (czeski), „Zerwany most" (polski), 13—17.

**Дубічы Царкоўныя**
„Kontrybucja" (polski), „Aleksander Newski" (radz.), 13—17.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Szkoła grzeszników" (czeski), „Kochajmy syrenki" (polski), 13—17.

**Орля**
„Zejście do piekła" (polski), „Człowiek z karabinem" (radz.), 13—17.

**Райск**
„Wołga, Wołga" (radz.), „Miejsce dla jednego" (polski), 13—17.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Wojna trojańska" (włoski), „Czerwony atrament" (węgierski), 12—15.

**Міхалова**
„Iwono Gila" (czeski), 12—13. „BS-38-15" (NRD), 14—15. „Bicz Boży" (polski), 16—17.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Gdzie jesteś Maksymie" (radz.), 12—13. „Dzieci Don Kichota" (radziecki), 14—15. „Zbrodniarz i panna" (polski), 16—17.

**Шудзялава**
„Kochajmy syrenki" (polski), „Matczyne serce" (radz.), 13—17.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Fifi piórko" (franc.), „Złodziej samochodów" (radz.), 13—17.

**Новы Двор**
„Popioły" (polski), I i II s. 16—17.

**Ліпск**
„Szyfry" (polski), „Dzwony dla bosych" (czeski), 16—17.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3. NAKŁAD 7802

# Матарызацыя

— Так, так, браткі, наша вёска матарызуецца...

— Гу! Яшчэ як!..

— Паспрабуй, палічы! У нас жа ў вёсцы цяпер больш матацыклаў, чым перад вайною было веласіпедаў.

— Ага! Перад вайною, бывала, кавалерка босымі нагамі педалявала...

— А цяпер ніхто голымі пятамі не бліскае...

— А хто меў веласіпед на тарашчотку, то абы з кім не хацеў гаварыць.

— А памятаеце, хлопчыкі, як толькі паказаліся гэтыя матацыклі? Памятаеце, як мяне панаслі коні? Вёз я з Паўлінаю сена. А тут нанясло на новенькай «эсхаэльцы» нашага бацюшку. Праляцеў каля нас, толькі сутана залапатала. Мае коні як рванулі, то Паўліна дагары нагамі ў адзін бок, а я ў другі. А коні развалілі Вінцуковы плот і апынуліся аж у Хведара каля стадолы...

— А цяпер ужо нашыя коні папрывыкалі да матарызацыі і толькі вушамі стрыгуць, бо і для іх прышла палёгка.

— А памятаеце, як Шурка вучыўся ездзіць? Запусціў матацыкл, але забыўся як стрымаць. Круціў, круціў, а потым дагадаўся і ў стог! Разваліў бацьку стог з саломаю, але ездзіць навучыўся.

— Але колькі ўжо курэй у вёсцы раз'ехалі?!

— Там, дзе дровы рэжуць, там і апілкі ляцяць...

— А дзе п'юць, там і разліваюць. А што, вы не ведалі?

І ў мяне лоньскае парася раз'ехалі!

— А як вы думалі? Сягоння вясковая вуліца, гэта не калісьці рынак, па якім спацыравалі вясковыя кормнікі і надворнікі...

— Праўду вы гаворыце, людзі, — адазваўся Міхась сумленны. — Наша вёска матарызуецца і нам не трэба адставаць.

Мой Кастусь захлопаў у далоні. І гаворыць да мяне:

— Ведаеш, мая даражэнькая, прадам сваю пузатую кабылку і зафундую табе новенькага шкутэра!..

**Цётка Мальвіна**

— Яна просіць дазволу на пасадку!



### ПРЫКМЕТА

Самая дакладная прыкмета вясны: пачынае як след працаваць цэнтральнае ацяпленне.

### АДКУЛЬ

Адзін мужчына пытаецца ў свайго суседа па купэ:

— Скажыце, калі ласка, тут можна курыць?

— Гэта купэ для некурачых.

— Адкуль жа гэтулькі недакуркаў?

— Засталіся па тых, хто не пытаўся пра гэта.

### ВАКОЛ СЛАВУТАСЦЕЙ

Выпадкова акадэмік Фантэнэль сядзеў за сталом сярод недалёкіх і фанабэрыстых юнакоў, якія хацелі пакпіць з філосафа.

— Як сказаць «Дайце нам піць», або «Прынясіце нам піць»? — задалі яны пытанне Фантэнэлю.

— Для вас не падыходзяць гэтыя выразы, — адказаў філосаф. — Вы павінны сказаць: «Звадзіце нас на вадапой».

### ТОЛЬКІ

Сустрэліся дзве жанчыны:

— Як справы ў вашага сына?

— Справы ў яго добрыя. Працуе ў цырку. Нічога не трэба рабіць, толькі тры разы на дзень кладзе галаву ў пашчу тыгра, а так цэлы дзень свабодны.



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Марыі Куприяновіч з Козлік, Гайнаўскага павета, змяшчаем песню п. з.

## ПОМНИШЬ МАМА?...

Помнишь мама моя,
Как девчонку чужую
Я привел тебе в дочки,
Тебя не спросив?
Строго глянула ты
На жену молодую
И заплакала вдруг,
Нас поздравить забыв...

Я её согревал
И теплом и заботой,
Не тебя, а её
Я хозяйкою звал,
Я ее целовал,
Уходя на работу,
А тебя,
как всегда,
Целовать забывал...

Если ссорились мы,
Ты ее защищала,
Упрекала меня,
Что не прав я во всем.
Наш семейный покой,
Как могла, сохраняла,
Как всегда,
позабыв
О покое своем...

Может быть,
мы бы с ней
И расстались,
не знаю,
Только руки твои
Ту беду отвели.
Так спасибо ж тебе,
Что хранишь ты, родная,
То, что с нею вдвоем
Мы б сберечь не смогли...

### ЯКАЯ РОЗНІЦА

— Якая розніца паміж будаўнічым трэстам і лініяй нападзення зборнай футбольнай каманды?

— Ніякай. І тыя і другія спазняюцца з перадачай.

### ЧАМУ

Урач кажа свайму пацыенту:

— Два-тры дні пасядзіце дома і добра адпачніце.

— Гэта немагчыма, доктар!

— Чаму?

— Мы набылі новую модную мэблю.

### КАЛІ

Муж з жонкай збіраюцца ў тэатр. Ужо ў калідоры жонка, паглядзеўшы на мужа, з жахам ускліквае:

— Ты зарос, як малпа! Чаму ты не пагаліўся?

— Я галіўся.

— Калі?

— А от як ты толькі-толькі пачала апранацца.



— Гэта камітэт фізкультуры? Дыскваліфікуйце бацьку: ён ударыў мяне ніжэй пояса!

Габрыэль Лаўб

### ВІНА

Да апошняга часу не было дакладна вядома, чыя віна ў тым, што позна прыйшоў трамвай, што паехала панчоха, што вы не зможаце правесці лета на Гавайскіх астравах, што дачушка не хоча есці, што ў тралейбусе ніхто не саступіў месца, што водаправодчык узяў дзесятку за тую працу, за якую аддаў брат толькі траячку, што трэба ўставаць, калі хочацца яшчэ паспаць, што ў студзені замест снегу ішлі дажджы, што ў цырульні вялікая чарга...

Цяпер, гэта, нарэшце, высветлена: ва ўсім гэтым вінаваты я.

Зрэшты, можа і вы, дарагі чытач.

Усё залежыць ад таго, чыю жонку мы спытаем.

### І ЎСЁ Ж НЕ КОНЬ

Цэлую гадзіну даказвалі каню, што ён вярблюд. Калі ж той, нарэшце, разбіў усе аргументы падобнага абвінавачвання, пачалі даказваць, што ён асёл, зыходзячы з таго, што конь упарта не згаджаўся прызнаць сябе вярблюдам.

**Пятро Сушко**



— Дзеля кахання я выканаў і гэты твой капрыз!..

### НЕ ПУГАЙ АДЗІНАЙ

Натурлівы Вол так прывык да пугі і дубца, што ўжо не звяртаў на іх увагі. Захоча — стане, — захоча — збочыць з дарогі, а то і зусім ляжа. Колькі ні паганяй — а ён і вухам не вядзе. Але аднойчы ў час такога тузання ў вуха Вала забраўся авадзень. Рагатага свавольніка як хто падмяніў. Ён пабег шпарчэй за аленя. З таго часу гаспадар, як той цыган перад продажам нягеглага каня, спецыяльна ловіць аваднёў і запускае іх у вуха непаслухмянага Вала. Той і бяжыць без панукі.

Выходзіць, што не пугай адзінай трэба падганяць вала. Да казана, што і валы любяць, каб мянялі пласцінку.

**Я. Герцовіч**

### ХТО КАГО

Палажыў муж калоду, на калоду дошку і кажа:

— Сядай, жонка! Хто каго пераважыць, таго і праўда ў хаце будзе.

Жонка пераважыла мужа. А той кажа:

— Ведаю, чаму ты мяне пераважыла, у цябе язык большы.

### РАК І ПЛОТКА
Байка

Бывае ж так!
Аднойчы рак
Да плоткі заляцаўся.
Хоць плотцы ён зусім
не падабаўся.
Ды ўсё ж яна ўступіла з ім
у шлюб.
Разважыла: хоць рак ёй і не
люб,
Але ж, калі зрабіў ён
прапанову,
То тут ужо старайся
не зявай.
Адразу жаніха хапаць
Рашуча будзь гатова.
Уласна кажучы, чаго ж
чакаць?
Тунца?
Яльца?
Ці асятра якога хіба?
Ды на бязрыб'і рак — таксама
рыба.
Няма прычын перабіраць.
І жонкай ракавай красуня
стала.
А рак? Яму, як кажуць,
Па калені мора.
З касцямі плотку з'еў
Наш рак даволі скора.

Бяда, калі выходзяць замуж без
разбору!

**Уладзімір Корбан**



### Арыгінальны рэкорд

Бадай, самы арыгінальны рэкорд устанавілі нядаўна шведскія балельшчыкі футбола. Засмучаныя слабай гульнёй сваіх любімцаў, да таго ж кепскім надвор'ем, яны з'явіліся на матч клубных каманд «Рэдбергслід» і «Грымсаас» у Гетэборгу ў колькасці... 17 чалавек. 24 гледачы назіралі ў Стакгольме сустрэчу каманд «ІФК» Стакгольм і «Хальстахамер». У абодвух выпадках на полі было больш мнагалюдна, чым на трыбунах.

### Падводныя кантрабандысты

Каля адной з прыстаней на ўзбярэжжы возера Лага Маджыорэ паліцыя выпадкова знайшла невялікую падводную лодку. Высветлілася, што кантрабандысты перавозілі на ёй розныя тавары з Швейцарыі ў Італію.

Лодка гэта сканструявана па ўзору дывэрсійных падводных лодак, якія выкарыстоўваліся італьянцамі ў гады вайны. Змяшчальнасць — адзін чалавек і некалькі дзесяткаў кілаграмаў грузу. Максімальная глыбіня пагружэння — каля двух метраў. Нямнога? Хапала, каб хавацца ад пільных вачэй таможнікаў.

### З газет

Англійская газета «Таймс» піша: «М-р Аляксандр Керанскі апошні прэм'ер-міністр Расіі да бальшавіцкай рэвалюцыі 1917 года, змешчаны ў адну з нью-йоркскіх бальніц з нервовай хваробай, якая, мяркуючы па ўсяму з'явілася ў выніку яго эмацыянальнай рэакцыі на пяцідзесятую гадавіну перамогі камунізма».



**Калі чалавек здольны смяяцца над сваімі няўдачамі дык ён да канца дзён сваіх забяспечаны добрым настроем.**